# ПЕРШАЕ ПАСЛАННЕ ДА КАРЫНЦЯНАЎ

## 1 (1-31)

[1]Павел, воляй Божай пакліканы быць апосталам Езуса Хрыста, і брат
Састэн [2]да Касцёла Божага ў Карынце, да асвячаных у Хрысце Езусе,
пакліканых да святасці разам з усімі, хто ў кожным месцы заклікае імя Пана
нашага Езуса Хрыста, іхняга і нашага. [3]Ласка вам і спакой ад Бога, Айца
нашага, і Пана Езуса Хрыста.

[4]Заўсёды дзякую Богу майму за вас дзеля ласкі Божай, дадзенай вам у
Хрысце Езусе. [5]Бо ў Ім вы ўзбагаціліся ўсім, усялякім словам і ўсялякім
пазнаннем. [6]Хрыстовае сведчанне так умацавалася ў вас, [7]што вы не маеце
нястачы ні ў якім дары, чакаючы абʼяўлення Пана нашага Езуса Хрыста. [8]Ён
таксама ўмацуе вас да канца, каб вы былі бязвіннымі ў дзень Пана нашага Езуса
Хрыста. [9]Верны ёсць Бог, які паклікаў вас да еднасці з Ягоным Сынам, Езусам
Хрыстом, Панам нашым.

[10]Заклікаю вас, браты, дзеля імя нашага Пана Езуса Хрыста, каб усе вы
гаварылі адно і тое ж і каб не было паміж вамі расколу, але каб мелі еднасць у
думках і пазнанні. [11]Бо ад людзей Хлоі я даведаўся, браты мае, што ўзнікаюць
паміж вамі спрэчкі. [12]Я ж паўтараю тое, што кожны з вас кажа: «Я – Паўла», «Я
– Апалоса», «Я – Кефаса», «А я – Хрыста».

[13]Хіба падзяліўся Хрыстус? Хіба Павел быў укрыжаваны за вас, або ці ў
імя Паўла вы былі ахрышчаныя? [14]Дзякую Богу, што я нікога з вас не ахрысціў,
апрача Крыспа і Гая, [15]каб не сказаў хто, што ў маё імя быў ахрышчаны.
[16]Ахрысціў я таксама дом Стэфанаса, а ці ахрысціў яшчэ каго, не ведаю.
[17]Хрыстус паслаў мяне не хрысціць, але абвяшчаць Евангелле, і не мудрасцю
слова, каб не зрабіць марным крыжа Хрыстовага.

[18]Для тых, хто гіне, слова аб крыжы – гэта глупства, але для нас, якія
збаўляемся, – гэта моц Божая. [19]Бо напісана:
«*Я знішчу мудрасць мудрацоў*
*і адкіну розум разумных*».

[20]Дзе мудрэц? Дзе кніжнік? Дзе даследчык гэтага веку? Ці не ператварыў
Бог мудрасць свету ў глупства? [21]Паколькі свет сваёю мудрасцю не пазнаў Бога
ў мудрасці Божай, спадабалася Богу праз глупства прапаведавання збавіць
веруючых. [22]Юдэі патрабуюць знакаў, а грэкі шукаюць мудрасці. [23]Мы ж
абвяшчаем Хрыста ўкрыжаванага, які для юдэяў – згаршэнне, для язычнікаў –
глупства, [24]а для тых, хто пакліканы, юдэяў і грэкаў, Ён – Хрыстус, Божая моц і
Божая мудрасць. [25]Бо неразумнае ў Бога разумнейшае за людзей, а слабое ў
Бога мацнейшае за людзей.

[26]Паглядзіце, браты, на пакліканне вашае. Няшмат [сярод вас] мудрых
паводле цела, няшмат моцных, няшмат шляхетнага паходжання. [27]Але Бог
выбраў неразумнае свету, каб асароміць мудрых, і слабое свету выбраў Бог, каб
асароміць моцных; [28]і бязроднае свету, і пагарджанае, і тое, чаго няма, выбраў
Бог, каб знішчыць існае, [29]каб ніякае цела не выхвалялася перад Богам. [30]Праз

Яго і вы існуеце ў Хрысце Езусе, які стаў для нас мудрасцю ад Бога і
справядлівасцю, і асвячэннем, і адкупленнем, [31]каб было, як напісана:
«*Хто хваліцца, няхай хваліцца ў Пану*».

## 2 (1-16)

[1]Я прыйшоў да вас, браты, не для таго, каб абвяшчаць вам таямніцу Божую
ўзнёслым словам ці мудрасцю. [2]Бо я вырашыў не ведаць нічога між вас, апроч
Езуса Хрыста, і то ўкрыжаванага. [3]І я стаў перад вамі ў слабасці, і ў страху, і ў
вялікім трымценні. [4]А слова маё і прапаведаванне маё не ў пераканаўчых
словах мудрасці, а ў праяўленні Духа і моцы, [5]каб вера вашая абапіралася не на
чалавечай мудрасці, а на моцы Божай.

[6]Мы абвяшчаем мудрасць сярод дасканалых, а не мудрасць гэтага свету ці
знікомых князёў гэтага свету. [7]Абвяшчаем мудрасць Божую, схаваную ў
таямніцы, якую Бог прадвызначыў перад вякамі для славы нашай. [8]Ніхто з
князёў гэтага свету не пазнаў яе; бо, калі б пазналі, не ўкрыжавалі б Пана
славы. [9]Але, як напісана: «*Чаго вока не бачыла, і вуха не чула*, і што не
ўваходзіла ў чалавечае сэрца, тое Бог падрыхтаваў тым, хто любіць Яго».

[10]Нам жа Бог адкрыў праз Духа, бо Дух пранікае ва ўсё, нават у глыбіні
Божыя. [11]Бо хто з людзей ведае чалавечае, акрамя духа чалавека, які ў ім самім?
Так і Божага не ведае ніхто, акрамя Духа Божага. [12]Мы ж прынялі не духа
свету, але Духа ад Бога, каб ведаць тое, што нам падаравана Богам. [13]І мы
гаворым пра гэта, навучаныя не словамі чалавечай мудрасці, але навучаныя
Духам, і тлумачым духоўнае пры дапамозе духоўнага. [14]Цялесны ж чалавек не
прымае [таго, што] ад Духа Божага. Бо гэта для яго глупства, і ён не можа
спазнаць, таму што гэта разумеюць духоўна. [15]А духоўны чалавек можа
разважаць пра ўсё, пра яго ж не можа разважаць ніхто.
[16]*Бо хто пазнаў розум Пана,*
*каб павучаць Яго?*
Мы ж маем розум Хрыстовы.

## 3 (1-23)

[1]І я, браты, не мог прамаўляць да вас як да духоўных, але як да цялесных,
як да немаўлят у Хрысце. [2]Я карміў вас малаком, а не цвёрдай ежай, бо вы яшчэ
не маглі, ды і цяпер яшчэ не можаце, [3]таму што вы яшчэ цялесныя. Калі сярод
вас ёсць зайздрасць і спрэчкі, ці ж не цялесныя вы і ці ж не паступаеце, як
людзі?

[4]Бо, калі адзін кажа: «Я – Паўла», а другі: «Я – Аполаса», ці ж не цялесныя
вы? [5]Бо хто такі Аполас? Хто такі Павел? [Гэта] слугі, праз якіх вы паверылі, як
кожнаму даў Пан. [6]Я садзіў, Аполас паліваў, але ўзрасціў Бог. [7]Таму неістотна,
хто садзіць і хто палівае, бо гэта Бог дае ўзрастанне. [8]Хто садзіць і хто палівае –
гэта адно, і кожны атрымае ўзнагароду сваю паводле працы сваёй. [9]Бо мы –
супрацоўнікі Божыя, а вы – Божая ніва, будоўля Божая.

[10]Я, паводле дадзенай мне ласкі Божай, як мудры дойлід, паклаў падмурак,
а іншы будуе. Няхай кожны глядзіць, як будуе, [11]бо ніхто не можа пакласці
іншага падмурку, акрамя пакладзенага, якім ёсць Езус Хрыстус. [12]А ці будуе
хтосьці на гэтым падмурку з золата, срэбра, дарагіх каменняў, дрэва, сена,
саломы, [13]пакажа дзень, калі выявіцца справа кожнага. Бо ў агні выкрываецца, і
агонь выпрабуе справу кожнага, якая яна. [14]Калі чыя справа, якую ён будаваў,
вытрывае, той атрымае ўзнагароду. [15]А калі чыя справа згарыць, зазнае шкоду,
сам жа збавіцца, але як бы праз агонь. [16]Ці не ведаеце, што вы святыня Божая і
што Божы Дух жыве ў вас? [17]Калі хто знішчыць святыню Божую, таго
знішчыць Бог, таму што святыня Бога святая, а ёй вы з’яўляецеся.

[18]Няхай ніхто не падманвае самога сябе. Калі хто з вас лічыць сябе мудрым
у гэтым свеце, няхай будзе неразумным, каб стаць мудрым. [19]Бо мудрасць
гэтага свету – глупства ў Бога. Таму што напісана:
«*Ён ловіць мудрых на хітрасці іхняй*».
[20]І яшчэ:
«*Пан ведае думкі* мудрых
*і тое, што яны марныя*».

[21]Таму няхай ніхто не хваліцца людзьмі, бо ўсё вашае: [22]ці Павел, ці
Аполас, ці Кефас, ці свет, ці жыццё, ці смерць, ці цяперашняе, ці будучае – усё
вашае, [23]вы ж – Хрыста, а Хрыстус – Бога.

## 4 (1-21)

[1]Няхай кожны лічыць нас слугамі Хрыста і распарадчыкамі таямніц
Божых. [2]Ад распарадчыкаў жа патрабуецца, каб кожны з іх аказаўся верным.
[3]Мне ж неістотна, як асудзіце мяне вы ці людскі суд, я і сам сябе не суджу. [4]Бо
я ні ў чым сябе не дакараю, але гэта не апраўдвае мяне. Пан ёсць тым, хто
судзіць мяне! [5]Таму не судзіце заўчасна, пакуль не прыйдзе Пан, які асветліць
схаванае ў цемры і выявіць намеры сэрцаў. І тады кожны атрымае пахвалу ад
Бога.

[6]Браты, дзеля вас я аднёс гэта да самога сябе і Аполаса, каб вы навучыліся
ад нас не выходзіць па-за тое, што напісана, каб вы не ўзвышаліся адзін над
адным. [7]Бо хто робіць цябе адрозным? Што ж маеш ты, чаго б не атрымаў? А
калі атрымаў, то чаму хвалішся, нібыта не атрымаў?

[8]Вы ўжо насыціліся, ужо ўзбагаціліся і пачалі валадарыць без нас. І няхай
бы валадарылі, каб мы таксама пачалі валадарыць разам з вамі. [9]Бо я думаю,
што Бог паказаў нас, Апосталаў, апошнімі, як людзей, асуджаных на смерць.
Таму што мы сталі відовішчам для свету, анёлаў і людзей. [10]Мы неразумныя
дзеля Хрыста, вы ж разумныя ў Хрысце; мы слабыя, вы ж моцныя; вы ў славе, а
мы без пашаны. [11]Нават да цяперашняй гадзіны мы галадаем і смагнем, церпім
галечу і пабоі, не маем дому [12]і цяжка працуем, зарабляючы ўласнымі рукамі.
Калі нас праклінаюць, мы благаслаўляем; калі пераследуюць, мы церпім; [13]калі
нас зневажаюць, мы molімся. Мы сталі як смецце свету, як адкіды ўсяго ажно
дагэтуль.

[14]Я пішу гэта не для таго, каб пасаромець вас, але каб асцерагчы вас як
сваіх умілаваных дзяцей. [15]Бо калі б нават вы мелі безліч выхаваўцаў у Хрысце,
у вас усё адно не будзе шмат айцоў, таму што я нарадзіў вас праз Евангелле ў
Хрысце Езусе. [16]Дык прашу вас, наследуйце мяне! [17]Дзеля гэтага я паслаў да
вас Цімафея, які ёсць дзіцем маім умілаваным і верным у Пану, каб ён напомніў
вам шляхі мае ў Хрысце Езусе, як я ўсюды навучаю ў кожным Касцёле.

[18]Паколькі я не прыходжу да вас, [то] некаторыя з вас заганарыліся. [19]Але я
хутка прыйду да вас, калі захоча Пан, і распазнаю не словы ганарыстых, але [іх]
моц, [20]бо Валадарства Божае не ў слове, а ў моцы. [21]Чаго хочаце? Каб з кіем я
прыйшоў да вас ці з любоўю і ў духу лагоднасці?

## 5 (1-13)

[1]Паўсюль чуецца, што сярод вас пануе распуста, прычым такая распуста,
якой няма нават сярод язычнікаў, што нехта жыве з бацькавай жонкай. [2]Але вы
заганарыліся і зусім не патрабавалі, каб той, хто робіць гэты ўчынак, быў
выдалены з вашага асяроддзя? [3]Адсутны целам, але прысутны духам, я, быццам
прысутны, ужо асудзіў таго, хто ўчыніў гэта, [4]у імя нашага Пана Езуса. Вы,
сабраўшыся разам у духоўнай лучнасці са мною, моцаю нашага Пана Езуса
[5]павінны выдаць такога чалавека сатане на згубу цела, каб ягоны дух мог
збавіцца ў дзень Пана.

[6]Вашае выхвалянне недарэчы. Ці ж не ведаеце, што малая закваска квасіць
усё цеста? [7]Дык ачысціце старую закваску, каб быць вам новым цестам, бо вы
прэсныя. Пасха нашая, Хрыстус, ахвяраваны за нас! [8]Таму будзем святкаваць не
ў старой заквасцы – заквасцы зла і подступу – але ў прэсным хлебе чыстасці і
праўды.

[9]Я напісаў вам у пасланні, каб вы не вадзіліся з распуснікамі. [10]Ды не
наогул з распуснікамі гэтага свету, ці хабарнікамі, ці драпежнікамі, ці
ідалапаклоннікамі, бо тады вам трэба было б пакінуць гэты свет! [11]Цяпер жа я
напісаў вам не вадзіцца з тымі, хто, называючы сябе братам, з’яўляецца
распуснікам, ці хабарнікам, ці ідалапаклоннікам, ці паклёпнікам, ці п’яніцаю, ці
рабаўніком. З такім нават не ешце разам. [12]Бо навошта мне судзіць тых, хто
звонку? Ці не тых, што сярод вас, судзіце вы? [13]Тых, што звонку, асудзіць Бог.
*Дык выдаліце нягодніка, які сярод вас!*

## 6 (1-20)

[1]Як адважваецца нехта з вас, маючы справу супраць іншага, судзіцца перад
несправядлівымі, а не перад святымі? [2]Хіба не ведаеце, што святыя будуць
судзіць свет? А калі вы асуджаеце свет, то ці ж не вартыя вы судзіць у
нязначных справах? [3]Хіба не ведаеце, што мы будзем судзіць анёлаў, ужо не
кажучы пра жыццёвыя справы?

[4]Аднак вы, калі разбіраеце жыццёвыя справы, ці не прызначаеце суддзямі
тых, хто ў Касцёле нічога не значыць? [5]На сорам ваш кажу [гэта]! Няўжо сярод
вас няма нікога мудрага, хто б мог рассудзіць паміж сваімі братамі? [6]Але брат

судзіцца з братам, і гэта перад няверуючымі? [7]Наогул ганебна для вас само тое,
што вы судзіцеся паміж сабою! Ці не лепш вам цярпець несправядлівасць? Ці
не лепш вам застацца ашуканымі? [8]Але вы самі крыўдзіце і ашукваеце, і пры
гэтым братоў! [9]Хіба не ведаеце, што несправядлівыя не атрымаюць у спадчыну
Валадарства Божае? Не ўводзьце сябе ў зман: ні распуснікі, ні ідалапаклоннікі,
ні чужаложнікі, ні блуднікі, ні мужаложнікі, [10]ні злодзеі, ні хціўцы, ні п’яніцы,
ні паклёпнікі, ні рабаўнікі не атрымаюць у спадчыну Валадарства Божае.

[11]І такімі былі некаторыя з вас. Але вы абмыліся, але вы былі асвячаныя,
але вы былі апраўданыя ў імя Пана Езуса Хрыста і ў Духу Бога нашага!

[12]Усё мне можна, але не ўсё карысна. Усё мне можна, але нічым не дам
сябе зняволіць. [13]Ежа для чэрава, і чэрава для ежы, але Бог знішчыць тое і
другое. Цела не для распусты, але для Пана, і Пан для цела. [14]Бог уваскрасіў
Пана і нас уваскрасіць сваёй моцаю.

[15]Хіба не ведаеце, што целы вашыя – гэта члены Хрыстовыя? Ці ж, узяўшы
члены Хрыста, учыню іх членамі распусніцы? Канешне, не! [16]Ці ж не ведаеце,
што, хто злучаецца з распусніцай, з’яўляецца адным целам [з ёю]? Бо, як
сказана, *двое будуць адным целам*. [17]А той, хто злучаецца з Панам, становіцца
адным духам з Ім. [18]Уцякайце ад распусты. Усялякі грэх, які чыніць чалавек,
ёсць па-за целам, а распуснік грашыць супраць уласнага цела. [19]Ці не ведаеце,
што целы вашыя – гэта святыня Духа Святога, які ў вас, якога вы маеце ад Бога,
і што вы не належыце самім сабе? [20]Бо вы куплены за вялікую цану! Таму
праслаўляйце Бога ў целе вашым.

## 7 (1-40)

[1]Што да напісанага вамі, то добра для мужчыны не кранацца жанчыны.
[2]Але, [каб пазбегнуць] распусты, кожны няхай мае сваю жонку, і кожная няхай
мае свайго мужа.

[3]Муж няхай выконвае [свой] абавязак адносна жонкі. Таксама і жонка
адносна мужа. [4]Жонка не распараджаецца сваім целам, але муж. Таксама і муж
не распараджаецца сваім целам, але жонка. [5]Не ўхіляйцеся адно ад аднаго, хіба
па згодзе, на [нейкі] час, каб вы мелі час на малітву, а потым ізноў будзьце
разам, каб не спакушаў вас сатана праз няўстрыманасць вашую. [6]Кажу гэта як
параду, а не як загад. [7]Бо хачу, каб усе людзі былі, як і я, але кожны мае свой
дар ад Бога, адзін так, другі гэтак.

[8]Нежанатым жа і ўдовам кажу: добра, калі застануцца, як я, [9]але, калі не
вытрымліваюць, няхай жэняцца, бо лепш ажаніцца, чым палаць
[пажадлівасцю].

[10]Тым жа, хто ажаніўся, не я наказваю, але Пан, каб жонка не адыходзіла
ад мужа. [11]Калі ж адыдзе, то няхай застаецца без мужа, ці паяднаецца з мужам
[сваім]. Муж таксама няхай не пакідае жонкі.

[12]Астатнім кажу я, не Пан: калі хто з братоў мае жонку няверуючую, і яна
згаджаецца жыць з ім, то няхай не пакідае яе. [13]Таксама жонка, якая мае
няверуючага мужа, і той згаджаецца жыць з ёю, няхай не пакідае яго, [14]бо
няверуючы муж асвячаецца праз жонку, і жонка няверуючая асвячаецца праз

мужа; інакш дзеці вашыя былі б нячыстыя, а цяпер яны святыя. [15]Калі ж
няверуючы хоча адысці, няхай адыдзе; брат ці сястра ў такіх выпадках не
зняволеныя, бо да згоды паклікаў нас Пан. [16]Адкуль жа ты ведаеш, жонка, што
збавіш мужа? Або ты, муж, адкуль ведаеш, што збавіш жонку?

[17]Зрэшты, кожны няхай паступае так, як Бог яму вызначыў, [да чаго]
кожнага паклікаў Пан. І гэтак я загадваю па ўсіх Касцёлах. [18]Калі пакліканы
хтосьці абрэзаным, няхай не хаваецца. Пакліканы хтосьці неабрэзаным? Няхай
не абрэзваецца! [19]Абразанне – нішто, і неабразанне – нішто, але лічыцца
выкананне запаведзяў Божых. [20]Кожны няхай застаецца ў тым пакліканні, у
якім быў пакліканы. [21]Быў пакліканы як нявольнік? Не турбуйся. Але, калі
можаш стаць свабодным, скарыстай з гэтага! [22]Бо нявольнік, пакліканы ў Пану,
ёсць свабодным Пана. Гэтак сама і пакліканы як свабодны ёсць нявольнікам
Хрыста. [23]Вы куплены [дарагой] цаною! Не станавіцеся нявольнікамі людзей.
[24]Браты, кожны, у якім пакліканні быў пакліканы, у тым няхай застаецца перад
Богам.

[25]Адносна дзеваў я не маю наказу ад Пана, але выказваю сваё меркаванне
як той, каго міласэрнасць Пана зрабіла вартым даверу. [26]Таму з-за цяперашняга
ўціску я лічу добрым, што чалавеку лепш заставацца такім. [27]Ты маеш жонку?
Не шукай вызвалення. Не маеш жонкі? Не шукай яе. [28]Калі ты і ажаніўся, то не
зграшыў, і калі дзева выйшла замуж, не зграшыла. Але такія зведаюць пакуту ў
целе, а я шкадую вас. [29]Я кажу вам, браты, што заканчваецца час. [30]Таму тыя,
хто мае жонак, няхай будуць як тыя, хто не мае. І тыя, хто плача, як тыя, хто не
плача. І тыя, хто радуецца, як тыя, хто не радуецца. І тыя, хто купляе, як тыя,
хто не набывае. [31]І тыя, хто карыстаецца светам, як тыя, хто не карыстаецца, бо
мінае вобраз гэтага свету. [32]Я хачу, каб вы былі бесклапотнымі. Нежанаты
клапоціцца пра справы Пана, як спадабацца Пану. [33]А жанаты клапоціцца пра
справы гэтага свету, як спадабацца жонцы, [34]і ён падзелены. Таксама
незамужняя жанчына і дзева клапоціцца пра справы Пана, каб быць святою і
целам, і духам, а замужняя клапоціцца пра справы гэтага свету, як спадабацца
мужу. [35]Кажу гэта для вашай карысці, не для таго, каб накінуць на вас путы, але
для таго, каб вы прыстойна і вытрывала служылі Пану.

[36]Калі хто-небудзь лічыць, што паступае нягодна са сваёй дзевай, бо
мінаюць ужо гады яе маладосці, і перакананы, што павінен так паступіць, то
няхай паступае, як хоча, ён не грашыць: няхай жэняцца. [37]Але калі нехта без
ніякага прымусу, пануючы над сваёй воляй, цвёрда вырашыў у сваім сэрцы
захаваць дзявоцтва, той робіць добра. [38]Таксама і той, хто жэніцца са сваёй
дзевай, але той, хто не жэніцца, робіць яшчэ лепш.

[39]Жонка звязаная столькі часу, колькі жыве яе муж. Аднак, калі памёр яе
муж, яна можа выйсці замуж за каго пажадае, каб толькі ў Пану. [40]Аднак больш
шчаслівай была б, калі б засталася так, як я раю. Думаю, і я маю Божага Духа.

## 8 (1-13)

[1]Вядома, пра ахвяры ідалам, мы ўсе маем пазнанне. Але пазнанне робіць
ганарыстым, а любоў будуе. [2]Калі хто думае, што пазнаў нешта, той яшчэ не

пазнаў як належыць. [3]А калі хто любіць Бога, той вядомы Яму. [4]Наконт
спажывання ахвяр ідалам мы ведаем, што нічым з’яўляецца ў свеце ідал і што
няма бога, апроч Аднаго. [5]Калі і ёсць так званыя багі на небе ці на зямлі, як
ёсць шмат багоў і шмат гаспадароў, [6]то ў нас адзін Бог Айцец, ад якога
[паходзіць] усё і мы [існуём] для Яго. І ёсць адзін Пан Езус Хрыстус, праз якога
ўсё, і мы праз Яго.

[7]Але не ва ўсіх [ёсць] гэтае пазнанне. Некаторыя і дагэтуль маюць
язычніцкую свядомасць і спажываюць ахвяраванае ідалу, а іхняе сумленне,
будучы слабым, апаганьваецца. [8]Аднак ежа не набліжае нас да Бога, бо ці ямо,
не становімся лепшымі, ці не ямо, не становімся горшымі. [9]Але глядзіце, каб
вашая свабода не стала прычынай упадку для слабых. [10]Бо, калі хто ўбачыць,
што ты, маючы пазнанне, сядзіш за сталом сярод язычніцкіх ідалаў, то ці яго
сумленне, будучы слабым, не заахвоціцца есці ахвяры, [прынесеныя] ідалам?
[11]Так праз тваё пазнанне гіне слабы брат, дзеля якога памёр Хрыстус. [12]Калі вы
грашыце так супраць сваіх братоў і раніце слабое сумленне іхняе, вы грашыце
супраць Хрыста. [13]Таму, калі ежа схіляе майго брата да граху, ніколі не буду
спажываць мяса, каб я не спакусіў брата майго да граху.

## 9 (1-27)

[1]Ці я не свабодны? Ці я не Апостал? Ці я не бачыў Езуса Хрыста, Пана
нашага? Ці не мая вы справа ў Пану? [2]Калі для іншых я не Апостал, то для вас
[Апостал], бо пячатка майго апостальства – вы ў Пану. [3]Вось такі адказ мой
тым, што судзяць мяне. [4]Ці мы не маем права есці ды піць? [5]Ці не маем права
мець спадарожніцаю сястру, жонку, як і іншыя Апосталы, і браты Пана, і
Кефас? [6]Ці адзін я і Барнаба не маем права не працаваць?

[7]Хто калі-небудзь служыў у войску на свой кошт? Хто садзіць вінаграднік і
не есць яго пладоў? Або хто пасвіць статак і не есць малака ад статку? [8]Ці я па-
чалавечы гавару гэта? Хіба не кажа гэта і Закон? [9]Бо ў Законе Майсея напісана:
«*Не завязвай пысы валу, што малоціць*». Ці аб валах клапоціцца Бог? [10]Ці не
дзеля нас увогуле кажа? Бо дзеля нас напісана, што араты павінен араць з
надзеяй, і малацьбіт [малаціць] з надзеяй, што [атрымае] частку. [11]Калі мы
пасеялі ў вас духоўнае [дабро], ці вялікая [рэч], калі пажнем у вас цялеснае?
[12]Калі іншыя маюць права над вамі, то мы тым больш? Аднак, мы не скарысталі
з гэтага права, але ўсё церпім, каб не ўчыніць якой перашкоды Евангеллю
Хрыстоваму. [13]Ці ж не ведаеце, што тыя, хто працуе пры святыні, жывяцца са
святыні, а тыя, што служаць пры ахвярніку, маюць частку з ахвярніка? [14]Так і
Пан загадаў тым, хто абвяшчае Евангелле, жыць з Евангелля.

[15]Але я нічым з гэтага не карыстаўся. Напісаў жа гэта не для таго, каб так
сталася для мяне, бо для мяне лепш памерці, чым… Гэтага гонару майго ніхто
не знішчыць. [16]Калі я абвяшчаю Евангелле, то мне няма чым хваліцца, бо
абавязак гэты ўскладзены на мяне. Гора мне, калі я не абвяшчаю Евангелля.
[17]Бо, калі раблю гэта з уласнай волі, атрымліваю ўзнагароду, а калі не з уласнай
волі, то выконваю даручаны абавязак. [18]Якая ж мая ўзнагарода? Такая, каб,

бескарысліва абвяшчаючы Евангелле, я не карыстаўся правам, [дадзеным] мне
праз яго абвяшчэнне.
[19]Будучы свабодным ад усіх, я стаў нявольнікам усіх, каб здабыць яшчэ
больш. [20]Для юдэяў я стаў, як юдэй, каб здабыць юдэяў. Для тых, хто
падпарадкоўваецца Закону, я стаў як той, хто падпарадкоўваецца Закону (хоць
сам не быў пад Законам), каб здабыць падпарадкаваных Закону. [21]Хоць маю
Закон Божы, але згодны з Законам Хрыста, я стаў для тых, хто не мае Закону,
як той, хто не мае Закону, каб здабыць тых, хто не мае Закону. [22]Для нядужых я
стаў, як нядужы, каб здабыць нядужых. Для ўсіх я стаў усім, каб уратаваць
прынамсі некаторых. [23]Раблю ж гэта дзеля Евангелля, каб стаць яго
саўдзельнікам.
[24]Ці не ведаеце, што на стадыёне бягуць усе бегуны, але ўзнагароду
атрымлівае адзін? Дык бяжыце так, каб атрымаць [яе]. [25]Кожны спаборнік
вытрымлівае ўсё: толькі тыя, каб атрымаць знішчальны вянок, а мы –
незнішчальны. [26]Таму я не бягу так, нібы бязмэтна, не змагаюся так, нібы
б’ючы паветра; [27]але я суровы да свайго цела і знявольваю яго, каб,
прапаведуючы іншым, самому не аказацца няздатным.

## 10 (1-33)

[1]Не хачу, браты, каб вы не ведалі, што айцы нашыя ўсе былі пад воблакам і
ўсе прайшлі праз мора, [2]і ўсе акунуліся за Майсеем у воблаку і ў моры, [3]і ўсе елі
тую самую духоўную ежу, [4]і ўсе пілі той самы духоўны напой, бо пілі з
духоўнай скалы, што спадарожнічала ім, а скалою быў Хрыстус. [5]Аднак
большасць з іх не ўпадабаў Бог, таму яны былі загублены ў пустыні.
[6]Гэта адбылося як прыклад для нас, каб мы не пажадалі дрэннага, як
жадалі яны. [7]Не будзьце ідалапаклоннікамі, як некаторыя з іх, як напісана:
«*Народ сеў, каб есці і піць, ды ўстаў забаўляцца*». [8]Не будзем распусьнічаць, як
некаторыя з іх распусьнічалі, і ў адзін дзень загінула іх дваццаць тры тысячы. [9]І
не выпрабоўвайце Хрыста, як некаторыя з іх выпрабоўвалі і загінулі ад змеяў.
[10]Не наракайце, як некаторыя з іх наракалі і загінулі ад згубніка. [11]Гэта
здарылася з імі як прыклад, бо напісана дзеля павучэння нам, якім выпала жыць
у канцы вякоў. [12]Таму, калі некаму здаецца, што ён стаіць, няхай глядзіць, каб
не ўпасці. [13]Вы не былі выпрабаваныя па-над людскія сілы. Бог, які ёсць
верным, не дазволіць выпрабоўваць вас больш, чым маеце сілы, але разам з
выпрабаваннем дасць і выйсце, каб вы маглі вытрываць.
[14]Мае ўмілаваныя, уцякайце ад ідалапаклонства. [15]Я гавару вам як
разумным, а вы разважце самі, што кажу. [16]Келіх благаслаўлення, які
благаслаўляем, ці не з’яўляецца ўдзелам у Крыві Хрыста? Хлеб, які ламаем, ці
ж не з’яўляецца ўдзелам у Целе Хрыста? [17]Адзін ёсць хлеб, адно цела – мы
многія. Бо мы ўсе саўдзельнікі аднаго Хлеба. [18]Глядзіце на Ізраэль паводле
цела: ці тыя, хто спажывае ахвяры, не з’яўлюцца супольнікамі алтара?
[19]Што ж кажу я? Ці ахвяра ідалам мае значэнне? Або ідал мае значэнне?
[20]Не, бо тое, што ахвяруюць, яны ахвяруюць дэманам, а не Богу. Я ж не хачу,
каб вы сталі супольнікамі дэманаў. [21]Вы не можаце піць келіха Пана і келіха

дэманаў. Не можаце сядзець за сталом Пана і за сталом дэманаў. [22]Няўжо мы
будзем абуджаць зайздрасць Пана? Хіба мы мацнейшыя за Яго?
[23]Усё можна, але не ўсё карысна. Усё можна, але не ўсё будуе. [24]Няхай
ніхто не шукае свайго, але таго, што [карысна] для іншага. [25]Усё, што
прадаецца на рынку, ешце без дакораў сумлення, [26]*бо Пану належыць зямля і
ўсё, што на ёй*.
[27]Калі хто з няверуючых запрашае вас, і вы хочаце пайсці, ешце ўсё, што
дадуць, без дакораў сумлення. [28]Аднак, калі хто скажа вам: «Гэта ахвяра са
святыні», не ешце з увагі на таго, хто [гэта] вам сказаў, і дзеля сумлення. [29]Кажу
не пра вашае сумленне, а таго чалавека. Бо дзеля чаго маю свабоду будзе
асуджаць чыёсьці сумленне? [30]Калі я з удзячнасцю прымаю [ежу], то чаму
асуджаюць мяне за тое, што я дзякую?
[31]Ці ясце, ці п’яце, ці нешта робіце, усё рабіце на славу Божую. [32]Не
будзьце прычынай упадку ні для юдэяў, ні для грэкаў, ні для Касцёла Божага,
[33]як і я стараюся дагадзіць усім ва ўсім, шукаючы не сваёй карысці, але
[карысці] многіх, каб яны былі збаўленыя.

## 11 (1-34)

[1]Наследуйце мяне, як і я наследую Хрыста.
[2]Хвалю вас, што вы памятаеце пра мяне і захоўваеце тое, што я пераказаў
вам. [3]Хачу, каб вы ведалі, што галава кожнага мужчыны – Хрыстус, галава
жанчыны – мужчына, а Хрысту галава – Бог. [4]Кожны мужчына, які моліцца або
прарочыць з пакрытаю галавою, сароміць сябе. [5]І кожная жанчына, што
моліцца або прарочыць з непакрытаю галавою, сароміць сябе, бо [выглядае], як
аголеная. [6]Калі жанчына не пакрывае [галавы], то няхай і абстрыжэцца. Калі
стрыгчыся ці галіцца жанчыне сорам, няхай пакрывае [сваю галаву].
[7]Мужчына не павінен пакрываць сабе галаву, бо ён вобраз і адлюстраванне
хвалы Божай. Жанчына ж – адлюстраванне хвалы мужчыны. [8]Бо не мужчына ад
жанчыны, але жанчына ад мужчыны. [9]І не мужчына быў створаны дзеля
жанчыны, але жанчына дзеля мужчыны. [10]Таму жанчына павінна мець на
галаве [знак] улады над ёю з увагі на анёлаў. [11]Аднак у Пану няма ні жанчыны
без мужчыны, ні мужчыны без жанчыны. [12]Бо, як жанчына ад мужчыны, так і
мужчына праз жанчыну, а ўсё ад Бога. [13]Мяркуйце самі: ці належыць, каб
жанчына малілася Богу з непакрытаю галавою? [14]Або ці сама прырода не
вучыць нас, што, калі мужчына адрошчвае валасы, то ганьба яму. [15]Але, калі
жанчына адрошчвае валасы, для яе гэта гонар, бо валасы дадзены ёй замест
пакрыцця. [16]А калі б хто захацеў спрачацца, то ні мы не маем такога звычаю, ні
Касцёлы Божыя.
[17]Даючы гэтыя настаўленні, я не хвалю таго, што вы збіраецеся разам не на
карысць, але на шкоду. [18]Бо, перш за ўсё, я чую, што, калі вы збіраецеся разам
як Касцёл, сярод вас паўстае разлад. І ў гэта я часткова веру. [19]Бо павінны быць
у вас падзелы, каб і выпрабаваныя маглі выявіцца сярод вас. [20]Таму, калі вы
збіраецеся дзеля гэтага, то гэта не спажыванне Вячэры Пана, [21]бо кожны
бярэцца раней з’есці ўласны спажытак. І адзін застаецца галодным, а другі

п’янее. [22]Хіба не маеце дамоў, каб есці і піць? Ці вы пагарджаеце Касцёлам
Божым і прыніжаеце тых, хто не мае? Што сказаць вам? Ці пахваліць вас? За
гэта не пахвалю!
[23]Я прыняў ад Пана тое, што і вам перадаў, што Пан Езус у тую ноч, калі
быў выданы, узяў хлеб, [24]узнёс падзяку, паламаў і сказаў: «*Гэта Цела Маё, якое
за вас будзе выдана. Гэта чыніце на Маю памяць*». [25]Таксама ўзяў пасля вячэры
келіх, кажучы: «*Гэта ёсць келіх Новага Запавету ў Крыві Маёй. Кожны раз,
калі Яго будзеце піць, чыніце гэта на Маю памяць*». [26]Кожны раз, калі будзеце
есці гэты хлеб і піць з гэтага келіха, абвяшчайце смерць Пана, пакуль Ён не
прыйдзе. [27]Таму той, хто будзе есці хлеб гэты ці піць з келіха Пана нягодным
чынам, будзе вінаваты [ў граху супраць] Цела і Крыві Пана. [28]Няхай
выпрабоўвае сябе чалавек, а потым няхай есць гэты хлеб і п’е з гэтага келіха.
[29]Бо хто есць і п’е, не зважаючы на Цела [Пана], той есць і п’е на сваё
асуджэнне. [30]Праз гэта сярод вас многа слабых ды хворых, і даволі памірае.
[31]Бо, калі б мы судзілі саміх сябе, то не былі б асуджанымі. [32]Калі ж судзіць нас
Пан, то дакарае нас, каб мы не былі асуджаныя разам са светам.
[33]Таму, браты мае, калі збіраецеся на пасілкі, чакайце адзін аднаго. [34]Калі
хто галодны, няхай есць дома, каб вы не збіраліся на асуджэнне. Іншыя справы
вырашу, калі прыйду.

## 12 (1-31)

[1]Аб духоўных [справах], браты, не хачу [пакінуць] вас у няведанні.
[2]Ведаеце, што, калі вы былі язычнікамі, то вялі вас да нямых ідалаў, быццам
зняволеных. [3]Дзеля гэтага кажу вам, што ніхто пад уплывам Духа Божага не
можа сказаць: «Праклён на Езуса!» І ніхто не можа сказаць: «Панам ёсць Езус»,
калі не будзе ў Духу Святым.
[4]Розныя ёсць дары, але той самы Дух. [5]Розныя ёсць служэнні, але той самы
Пан. [6]Розныя ёсць дзеянні, але той самы Бог, які робіць усё ва ўсіх. [7]Аднак
кожнаму даецца праяўленне Духа на карысць. [8]Аднаму даецца Духам слова
мудрасці, другому – слова пазнання паводле таго самага Духа; [9]іншаму – вера ў
тым самым Духу; іншаму – дар аздараўлення ў тым жа Духу; [10]іншаму – моц
чыніць цуды, іншаму – прароцтва, іншаму – распазнаванне духаў, іншаму –
розныя мовы, іншаму – тлумачэнне моваў. [11]А ўсё гэта здзяйсняе адзін і той жа
Дух, які ўдзяляе кожнаму паасобку, як жадае.
[12]Як цела адно, але мае многа членаў, якія, хоць іх шмат, складаюць адно
цела, так і Хрыстус. [13]Бо ўсе мы ў адным Духу ахрышчаныя ў адно цела: ці то
юдэі, ці то грэкі, ці то нявольнікі, ці то свабодныя, і ўсе напоўненыя адным
Духам. [14]Цела – гэта не адзін член, але шмат. [15]Калі скажа нага: «Я не рука,
таму не належу да цела», то ці ж яна не належыць да цела? [16]І калі скажа вуха:
«Я не вока, таму не належу да цела», то ці ж яно не належыць да цела? [17]Калі
ўсё цела – гэта вока, то дзе ж слых? Калі ўсё слых, то дзе нюх? [18]Цяпер жа Бог
змясціў члены, кожны паасобку ў целе, як захацеў. [19]А калі б усе былі адным
членам, то дзе цела? [20]Цяпер жа членаў шмат, але цела адно. [21]Таму не можа
вока сказаць руцэ: «Ты мне не патрэбна!», ці таксама галава – нагам: «Вы мне

не патрэбныя!» [22]Але ж члены цела, якія здаюцца найслабейшымі, нашмат
больш патрэбныя. [23]І тыя, якія лічам менш пачэснымі ў целе, мы больш
ушаноўваем, і нашым непрыстойным [мы надаём] больш прыстойнасці, [24]бо
нашым прыстойным гэтага не трэба. Але Бог сфармаваў цела, даючы
слабейшым большую пашану, [25]каб не было падзелу ў целе, але каб [усе] члены
рупіліся адзін аб адным. [26]Таму, калі церпіць адзін член, церпяць з ім усе
члены; калі праслаўляецца адзін член, з ім радуюцца ўсе часткі. [27]Вы ж – цела
Хрыстовае, а паасобку – члены.

[28]Адных Бог паставіў у Касцёле найперш Апосталамі, другіх – прарокамі,
трэціх – настаўнікамі, потым даў моц, потым – дары аздараўлення, дапамогі,
кіравання, розныя мовы. [29]Ці ўсе Апосталы? Ці ўсе прарокі? Ці ўсе настаўнікі?
Ці ўсе цудатворцы? [30]Ці ўсе маюць дар аздараўлення? Ці ўсе гавораць мовамі?
Ці ўсе тлумачаць? [31]Дбайце пра большыя дары, і я пакажу вам яшчэ лепшы
шлях.

## 13 (1-13)

[1]Калі я гавару мовамі людзей і анёлаў, а любові не маю, я – як медзь
звонкая або гулкія цымбалы.

[2]І калі маю дар прароцтва, і спазнаў усе таямніцы, і маю ўсякія веды і
паўнату веры, каб перастаўляць горы, а любові не маю, то я – ніштто.

[3]І калі раздам усю маёмасць сваю і аддам цела сваё на спаленне, а любові
не маю, няма мне з гэтага ніякай карысці.

[4]Любоў доўгацярплівая, любоў ласкавая, не зайздросціць, любоў не
пыхлівая, не ганарыцца, [5]не бессаромная, не шукае свайго, не гневаецца, не
памятае зла, [6]не радуецца несправядлівасці, але радуецца разам з праўдай. [7]Усё
зносіць, усяму верыць, на ўсё спадзяецца, усё церпіць.

[8]Любоў ніколі не мінае. Не так як прароцтвы, якія спыняцца, ці мовы, якія
змоўкнуць, ці веды, якія скончацца. [9]Бо мы часткова пазнаем і часткова
прарочым, [10]а калі настане дасканалае, тады тое, што частковае, знікне. [11]Калі я
быў дзіцём, то па-дзіцячаму гаварыў, па-дзіцячаму думаў, па-дзіцячаму
разважаў; а калі стаў мужчынам, то пакінуў дзіцячае. [12]Бо цяпер мы бачым праз
люстэрка, цьмяна, а тады – тварам у твар. Цяпер я ведаю часткова, тады ж
спазнаю так, як і я спазнаны.

[13]А цяпер трываюць вера, надзея і любоў – гэтыя тры, але найбольшая з іх
любоў.

## 14 (1-40)

[1]Імкніцеся да любові; клапаціцеся аб духоўным, асабліва аб [дары]
прароцтва. [2]Хто гаворыць мовамі, той гаворыць не людзям, а Богу. Ніхто не
разумее яго, бо ён пра таямнічае гаворыць. [3]А хто прарочыць, той гаворыць
людзям на збудаванне, напамін і суцяшэнне. [4]Хто гаворыць мовамі, будуе сябе,
а хто прарочыць, будуе Касцёл. [5]Хачу, каб вы ўсе гаварылі мовамі, але лепш,

каб вы прарочылі, бо большы той, хто прарочыць, чым той, хто гаворыць
мовамі, хіба што ён будзе тлумачыць дзеля будавання Касцёла.

[6]Цяпер, калі я прыду да вас, браты, гаворачы мовамі, якую прынясу вам
карысць, калі не буду прамаўляць да вас праз аб’яўленне, пазнанне, прароцтва і
навучанне? [7]Бо і бяздушныя інструменты, ці то жалейка, ці гуслі, калі не даюць
адрозных гукаў, то як распазнаць, што іграюць на жалейцы ці на гуслях? [8]І, калі
труба будзе выдаваць невыразны гук, хто пачне рыхтавацца да вайны? [9]Так і
вы, калі языком вымаўляеце незразумелыя словы, як пазнаюць, што вы
гаворыце? Вы будзеце гаварыць на вецер. [10]Колькі, напрыклад, ёсць
разнастайных гукаў на свеце, і ўсе яны розныя. [11]Калі я не разумею значэння
гуку, то буду чужынцам таму, хто гаворыць, і для мяне той, хто гаворыць,
чужынец.

[12]Так і вы, калі рупіцеся аб духоўных [дарах], старайцеся ўзрастаць у іх
дзеля будавання Касцёла. [13]Таму той, хто гаворыць мовамі, няхай моліцца, каб
умеў тлумачыць. [14]Бо, калі я малюся на мовах, то дух мой моліцца, але розум
мой застаецца бясплодным. [15]Што ж рабіць? Буду маліцца духам і буду маліцца
розумам, буду спяваць духам і буду спяваць розумам. [16]Бо, калі ты будзеш
благаслаўляць у духу, то як неўтаямнічаны скажа «Амэн!» на тваё дзякаванне,
калі не ведае, што кажаш? [17]Ты хораша дзякуеш, але не будуеш другога.
[18]Дзякую Богу, што больш за ўсіх вас гавару мовамі, [19]але ў Касцёле хачу
сказаць лепш пяць слоў маім розумам, каб і другіх навучыць, чым дзесяць
тысяч слоў на мовах.

[20]Браты, не будзьце дзецьмі ў думках, але будзьце дзецьмі для зла, а ў
думках будзьце сталымі.

[21]У Законе напісана:

«*Іншымі мовамі і іншымі вуснамі*
*буду гаварыць да народу гэтага,*
*але і тады не паслухаюць* Мяне», –
кажа Пан. [22]Так што мовы з’яўляюцца знакам не для веруючых, але для
няверуючых; прароцтва ж не для няверуючых, але для веруючых. [23]Калі б увесь
Касцёл сабраўся разам, і ўсе пачалі гаварыць мовамі, то калі ўвойдуць
неўтаямнічаныя ці няверуючыя, ці не скажуць яны, што вы вар’яты? [24]Калі б
усе прарочылі, і ўвайшоў бы няверуючы ці неўтаямнічаны, то ўсімі ён будзе
дакараны, усімі асуджаны, [25]і тайны сэрца яго выявяцца, і ён, упаўшы на твар,
пакланіцца Богу, кажучы: «Сапраўды, з вамі Бог!»

[26]Што ж рабіць, браты? Калі вы збіраецеся разам, то кожны [ці] спявае, [ці]
навучае, [ці] мае аб’яўленне, [ці] мову, [ці] тлумачэнне – усё гэтае няхай будзе
на будаванне. [27]Калі хто гаворыць мовамі, гаварыце па двое, ці найбольш па
трое, ды па чарзе, а адзін няхай тлумачыць. [28]Калі ж няма таго, хто тлумачыць,
няхай у Касцёле маўчаць. Няхай гавораць сабе і Богу. [29]І пракокі няхай
гавораць па двое ці па трое, іншыя няхай разважаюць. [30]Калі ж другому з
седзячых будзе дадзена аб’яўленне, то першы няхай маўчыць. [31]Бо ўсе паасобку
можаце прарочыць, каб усе вучыліся і ўсе заахвочаныя былі суцешаныя.
[32]Нават духі прарочыя падпарадкаваныя прарокам, [33]бо Бог не ёсць [Богам]
бязладдзя, але спакою.

Як ёсць ва ўсіх Касцёлах паміж святымі, [34]жанчыны ў Касцёлах няхай
маўчаць, бо не дазволена ім гаварыць, але няхай будуць падпарадкаваныя, як і
кажа Закон. [35]Калі хочуць чаму навучыцца, няхай пытаюцца дома ў мужоў
сваіх, бо сорамна жанчыне гаварыць у Касцёле.

[36]Ці ад вас выйшла слова Божае, або ці да вас адных дайшло? [37]Калі хто
лічыць, што ён прарок ці [мае іншы дар] духоўны, няхай прызнае, што тое, пра
што я пішу вам, – гэта запаведзь Пана. [38]Хто [гэтага] не прызнае, сам будзе
непрызнаны. [39]Таму, браты мае, старайцеся прарочыць і не забараняйце
[гаварыць] мовамі. [40]Няхай усё адбываецца прыстойна і згодна з парадкам.

## 15 (1-58)

[1]Нагадваю вам, браты, Евангелле, якое я абвяшчаў вам і якое вы прынялі, і
ў якім трываеце, [2]і праз якое таксама збавіцеся, калі цвёрда захаваеце тое слова,
што я абвясціў вам. Калі толькі не дарма паверылі! [3]Бо спачатку я перадаў вам
тое, што і сам прыняў, што Хрыстус памёр за нашыя грахі паводле Пісання і
[4]што быў пахаваны і ўваскрос на трэці дзень паводле Пісання, [5]і што з’явіўся
Кефасу, а потым – Дванаццаці. [6]Пасля з’явіўся больш чым пяцістам братам
адначасова, большасць з якіх жыве дагэтуль, а некаторыя памерлі. [7]Потым
з’явіўся Якубу, потым – усім Апосталам. [8]Пазней за ўсіх з’явіўся і мне, як
неданошанаму плоду. [9]Бо я найменшы з Апосталаў і не варты называцца
Апосталам, паколькі пераследаваў Касцёл Божы. [10]Але з ласкі Божай я стаў
тым, чым ёсць, і ласка Ягоная, дазеная мне, не была дарэмнаю. Наадварот, я
працаваў больш за ўсіх іх, ды і не я, а ласка Божая, што са мною. [11]Таму ці я, ці
яны, мы так прапаведуем, а вы так паверылі.

[12]Калі прапаведуюць, што Хрыстус уваскрос з памерлых, то чаму
некаторыя з вас кажуць, быццам няма ўваскрашэння памерлых? [13]Калі ж няма
ўваскрашэння памерлых, то і Хрыстус не ўваскрос! [14]А калі Хрыстус не
ўваскрос, то марнае і прапаведаванне нашае, і вера ваша марная. [15]Тады б мы
аказаліся фальшывымі сведкамі Бога, бо сведчылі б супраць Бога, што Ён
уваскрасіў Хрыста, якога Ён не ўваскрашаў, паколькі памерлыя не
ўваскрасаюць. [16]Бо калі памерлыя не ўваскрасаюць, то і Хрыстус не ўваскрос.
[17]А калі Хрыстус не ўваскрос, то вера ваша марная і вы далей у грахах вашых.
[18]Тады і тыя, што памерлі ў Хрысце, згінулі. [19]Калі мы спадзяёмся на Хрыста
толькі ў гэтым жыцці, то мы самыя няшчасныя сярод людзей.

[20]Але Хрыстус уваскрос з памерлых, Першынец сярод тых, якія памерлі.
[21]Паколькі праз чалавека прыйшла смерць, так праз Чалавека – і ўваскрашэнне
памерлых. [22]Бо, як у Адаме ўсе паміраюць, так і ў Хрысце ўсе будуць
ажыўлены. [23]Кожны ў свой час: першы Хрыстус, потым тыя, хто належыць
Хрысту, падчас прыйсця Ягонага. [24]Канец настане тады, калі Ён перадасць
Валадарства Богу і Айцу, калі знішчыць усялякае панаванне і ўсялякую ўладу, і
сілу. [25]Бо трэба, каб Ён валадарыў, *пакуль не пакладзе* ўсіх *ворагаў пад ногі*
свае. [26]Як апошні вораг будзе знішчана смерць, [27]бо *ўсё пакладзена пад ногі*
*Ягоныя*. Калі ж скажа, што ўсё падпарадкавана, то відавочна, за выключэннем
таго, хто падпарадкаваў Яму ўсё. [28]Калі ж усё будзе Яму падпарадкавана, тады і

сам Сын падпарадкуецца Таму, хто падпарадкаваў Яму ўсё, каб Бог быў усё ва
ўсім.
[29]Бо што ж зробяць тыя, хто прымае хрост за памерлых? Калі памерлыя
зусім не ўваскрасаюць, то навошта яны і хрысцяцца за іх? [30]Навошта і мы
пастаянна трапляем у небяспеку? [31]Я кожны дзень паміраю. Сведчаннем гэтаму
ваша пахвала, браты, якую маю ў Езусе Хрысце, Пану нашым! [32]Калі я, як
нявольнік, змагаўся ў Эфесе з дзікімі звярамі, то якая мне карысць? Калі
памерлыя не ўваскрасаюць, будзем *есці і піць, бо заўтра памром*. [33]Не
падманвайце сябе. *Дрэнныя размовы псуюць добрыя звычаі.* [34]Абудзіцеся па-
сапраўднаму і не грашыце! Бо некаторыя [з вас] не ведаюць Бога. Кажу гэта вам
на сорам.
[35]Хто-небудзь скажа: «Як памерлыя ўваскрэснуць? У якім целе яны
прыйдуць?» [37]Неразумны! Тое, што ты сееш, не ажыве, перш чым не памрэ.
Тое, што ты сееш, сееш не як будучае цела, але як голае зерне, напрыклад,
пшаніцы ці чаго іншага. [38]Бог жа дае яму такое цела, як хоча, і кожнаму
насенню ўласнае цела. [39]Не ўсе целы аднолькавыя, але адно ў людзей, іншае ў
жывёл, іншае таксама ў птушак, яшчэ іншае ў рыб. [40]Ёсць целы нябесныя і целы
зямныя, але іншая слава нябесных, а іншая – зямных. [41]Іншая слава сонца, і
іншая – месяца, іншая таксама слава зорак, бо зорка ад зоркі адрозніваецца
славай. [42]Так і ўваскрашэнне памерлых. Сеецца ў тленні, устае ў нятленнасці.
[43]Сеецца ў пагардзе, устае ў славе. Сеецца ў слабасці, устае ў моцы. [44]Сеецца
цела зямное, устае цела духоўнае.
Калі ёсць зямное цела, ёсць і духоўнае. [45]Так і напісана: «Першы *чалавек*
Адам *стаў жывой істотай*», апошні Адам – жыватворным духам. [46]Але не
духоўнае першае, а зямное, потым духоўнае. [47]Першы чалавек з зямлі, ёсць
пылам; другі Чалавек – з неба. [48]Які быў з пылу, такія і тыя, што з пылу; які
нябесны, такія і нябесныя. [49]І як мы насілі вобраз таго, што з пылу, так будзем
насіць вобраз нябеснага. [50]Але кажу вам, браты, што цела і кроў не могуць
атрымаць у спадчыну Валадарства Божае, і тленнае не атрымае ў спачыну
нятленнасць.
[51]Вось, я кажу вам таямніцу: не ўсе мы памром, але ўсе будзем
перамененыя, [52]адразу, у імгненне вока, на гук апошняй трубы. Калі яна
загучыць, і памерлыя ўваскрэснуць як нятленныя, а мы пераменімся. [53]Бо трэба,
каб тое, што тленнае, апранулася ў нятленнасць, а тое, што смяротнае,
апранулася ў несмяротнасць. [54]Калі ж тленнае апранецца ў нятленнасць, а тое,
што смяротнае, апранецца ў несмяротнасць, тады споўніцца напісанае слова:
«*Перамога паглынула смерць.*
[55]*Смерць, дзе твая перамога?*
*Смерць, дзе тваё джала?*»
[56]Джала смерці – грэх, а сіла граху – Закон. [57]Богу ж падзяка, бо Ён даў нам
перамогу праз нашага Пана Езуса Хрыста. [58]Таму, мае ўмілаваныя браты,
будзьце моцнымі, непахіснымі, заўсёды будзьце цалкам адданымі справе Пана і
ведайце, што не дарэмная праца ваша ў Пану.

## 16 (1-24)

[1]Што датычыць складкі для святых, то рабіце і вы так, як я ўстанавіў у
Касцёлах Галатыі. [2]У першы дзень тыдня кожны з вас няхай адкладае штосьці ў
сябе, калі яму добра вядзецца, каб не збіраць складкі тады, як я прыйду. [3]Калі ж
прыйду, то тых, каго вы выберыце, пашлю з лістамі, каб аднеслі ваш дар у
Ерузалем. [4]А калі неабходна будзе і мне пайсці, то пойдуць са мною.
[5]Я ж прыйду да вас, калі прайду Македонію. [6]У вас, магчыма, затрымаюся,
або нават і перазімую, каб вы мяне правялі, куды пайду. [7]Бо не хачу бачыцца з
вамі цяпер мімаходам, але спадзяюся прабыць у вас трохі часу, калі Пан
дазволіць. [8]У Эфесе затрымаюся аж да Пяцідзесятніцы, [9]бо для мяне адчынены
вялікія і шырокія дзверы, і шмат ёсць праціўнікаў. [10]Калі прыйдзе да вас
Цімафей, глядзеце, каб быў у вас бяспечны, бо ён працуе для справы Пана, як і
я. [11]Таму няхай ніхто не пагарджае ім. Правядзіце яго ў спакоі, каб ён прыйшоў
да мяне, бо я чакаю яго з братамі. [12]Што да брата Аполаса, то я вельмі прасіў
яго, каб з братамі пайшоў да вас. Ды наогул ён не меў ахвоты ісці цяпер, але
прыйдзе, калі яму будзе зручна.
[13]Чувайце, трывайце ў веры, будзьце мужнымі і моцнымі. [14]Усё ў вас няхай
у любові робіцца. [15]Прашу вас, браты: вы ведаеце сям’ю Стэфана, што яна –
першы плод Ахайі, і што яны аддалі сябе на служэнне святым. [16]Таму і вы
будзьце паслухмянымі такім ды кожнаму, хто садзейнічае [вам] і цяжка працуе.
[17]Я рады прыйсцю Стэфана, Фартуната і Ахаіка, бо яны запоўнілі для мяне
вашую адсутнасць. [18]Яны падтрымалі мяне і вас на духу. Таму шануйце такіх.
[19]Вітаюць вас усе Касцёлы Азіі. Вітае вас шчыра ў Пану Аквіла і
Прысцыла разам з Касцёлам, які збіраецца ў іх доме. [20]Вітаюць вас усе браты.
Прывітайце адзін аднаго святым пацалункам.
[21]Гэта ўласнаручнае маё, Паўла, прывітанне. [22]Калі хто не любіць Пана,
няхай будзе выключаны [з супольнасці]. Марана та!
[23]Ласка Пана Езуса [няхай будзе] з вамі. [24]Любоў мая з усімі вамі ў Хрысце
Езусе.

---